*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ.*

# НАША СЛОВА




№ 1(11) • СТУДЗЕНЬ • 1991 Штотыднёвік Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны.

## ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!

Вось і распачаўся другі год існавання «Нашага слова». Тое, што мінула, стала гісторыяй. і не на карысць яе забываць. Будзем помніць і сакавік 1990-га. Тады сябры Таварыства Беларускай Мовы на чале з паэтам Нілам Гілевічам ажыццявілі выпуск першага нумару «Нашага слова». На грамадскіх пачатках. Не станем распавядаць, як няпроста ўсё далося. Успомнім іншае: нягледзячы на тое, што выданне было безганарарнае, шмат хто з дзеячаў культуры і навукі Беларусі адгукнуўся на заклік рэдакцыі даслаць свае творы для публікацыі. Прапаноўвалі — лепшае! І цяпер наўрад у каго з уладальнікаў дзесятка мінулагодніх выпускаў «Нашага слова» ўзнімаецца рука запакаваць іх у макулатурны штабель. Знойдзецца месца на паліцы, каб яшчэ не аднойчы перагарнуць старонкі, на якіх адлюстравана гісторыя нашага змагання з такой хваробай, як нацыянальнае бяспамяцтва.

Ініцыятары выдання, вядома, спадзяваліся — яно знойдзе свайго чытача. Але была і пэўная трывога: раптам гэта акажацца толькі нешматлікая група энтузіястаў у моры бездухоўнасці і абыякавасці?

Цяпер можна зазначыць упэўнена: нават у эпоху пустых прылаўкаў не хлебам адзіным, як сказаў некалі Хрыстос д'яблу, жыве народ. Хлеб духоўны для яго гэткі ж неабходны. Таму «Наша слова» займела прыхільнікаў у самым шырокім асяродку беларусаў. Вынікі падпіскі пацвердзілі: яго падтрымалі людзі розных прафесій — рабочыя, сяляне, дзеячы навукі, настаўнікі, інжынеры, адміністратары, вайскоўцы. Не засталіся абыякавымі і нашы землякі, што па нейкіх прычынах жывуць за межамі Беларусі ў розных краінах свету.

Самае ж, думаецца, істотнае — за «Наша слова» выказваецца беларуская моладзь, а значыць, у яго ёсць надзейная будучыня. За «Наша слова» — людзі розных рэлігійных канфесій і розных палітычных партый, якія зараз існуюць у рэспубліцы. І гэта можна толькі вітаць. Як адзначалася ў Звароце да народных дэпутатаў і ўсіх грамадзян Беларусі, што быў прыняты на рэспубліканскім форуме «Інтэлігенцыя ў нацыянальным адраджэнні і ажыццяўленні суверэнітэту Беларусі», «без адраджэння беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця немагчыма існаванне цывілізаванага грамадства, немагчыма аднавіць і перабудаваць эканоміку і падняць дабрабыт народа». Партыі ствараюцца і распадаюцца ў залежнасці ад сацыяльных патрэб грамадства, народ застаецца. А мова — ягоная душа. Яна сыходзіць у нябыт тады, калі знікае сам носьбіт мовы. Станем дбаць пра сваю душу — будзем і самі на гэтай зямлі. Таму радкі Францішка Багушэвіча і надалей застаюцца на сцягу «Нашага слова».

Спадзяемся таксама на актыўны ўдзел чытачоў у абмеркаванні далейшай праграмы нашага выдання. Будзем удзячныя за прапановы, парады, заўвагі. Чакаем лістоў, паведамленняў, змястоўных допісаў і артыкулаў. Гэта тым больш неабходна, што ў хуткім часе «Наша слова» пачне выходзіць часцей. З безганарарнага бюлетэня яно, дзякуючы намаганням грамадскасці, пераўтвараецца ў паўнацэнны штотыднёвік са штатнымі літаратурнымі супрацоўнікамі. Што з'явіцца на ягоных старонках, рэдакцыя канчаткова вырашыць пасля нарады з чытачамі. Зараз вызначаем у асноўным агульны накірунак. Вядома, станем паведамляць аб дзейнасці мясцовых арганізацый ТБМ. Будзем дбаць пра беларускамоўныя класы. Напярэдадні новага навучальнага года плануем «адчыніць» свой «Беларускі ліцэй». У гэтай сувязі звяртаемся да нашых чытачоў-настаўнікаў, да бацькоў, якія благаславілі сваіх дзяцей на вучобу ў беларускамоўных класах: давайце сумесна абмяркуем, якія публікацыі перш за ўсё павінны з'явіцца ў рубрыцы «Беларускі ліцэй».

Не застанецца без увагі рэдакцыі праца вучоных-беларусістаў, а таксама жыццё беларускіх школ за мяжой. Змесцім серыю нататак і ўспамінаў пра дзейнасць колішніх беларускіх гімназій. Як і раней, будзем гартаць даўнія беларускамоўныя перыядычныя выданні. Пастараемся пазнаёміць з рэлігійнымі творамі розных веравызнанняў, якія існуюць на Беларусі (просім чытачоў выказацца аб гэтым), і шмат чаго іншага.

І апошняе. Новы год нясе перамены ў жыццё кожнага з нас, у тым ліку трывожныя. Сустрэнем іх мужна, якімі б нечаканымі яны ні былі. У суседзяў-чэхаў ёсць прымаўка: перамена — гэта жыццё. Ды і нашы продкі нездарма казалі: хочаш жыць — варушыся. Галоўнае — не разгубіцца. Адчуваць сябе не натоўпам незнаёмых спадарожнікаў у цёмнай начы, а грамадой, народам. Станем жа дбаць разам і дружна пра сваю будучыню!

Жыве Беларусь!

Эрнэст ЯЛУГІН,
рэдактар «Нашага слова».

АД РЭДАКЦЫІ: Просім даравацъ, што першы нумар Вы атрымліваеце са спазненнем. Як вядома, шмат якія выданні на пачатку года аказаліся без паперы (не кажучы пра тое, што на яе нечакана ўзнялі цану ў некалькі разоў). Не абышла гэтая навала і нас. Ёсць пакуль цяжкасці з друкаваннем «Нашага слова». Усё гэта прымушае нас зменшыць аб'ём паасобніка і наклад. У першую чаргу газетаю забяспечваюцца падпісчыкі.

## З НАГОДЫ 75-ГОДДЗЯ

*з Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны і рэдакцыі «Нашага слова» была адпраўлена тэлеграма айцу Уладзіславу Чарняўскаму з вёскі Вішнева, што ў Валожынскім раёне, з наступным зместам:*

*Шаноўны айцец Уладзіслаў, Рэспубліканская Рада ТБМ імя Францішка Скарыны і супрацоўнікі рэдакцыі разам з чытачамі «Нашага слова» сардэчна віншуюць Вас. Дзякуй, што несяце роднае слова народу беларускаму. Зычым здароўя, дабрабыту на многія леты.*




Менск, плошча Леніна, 20 студзеня 1991 года.

Фота В. Рудэнкі.

*Ларыса ГЕНІЮШ*

## МЫ НАРОД

*Агонь душы не паканаюць сцюжы.*
*Марозамі агню не пагасіць.*
*З цярпенняў — веліч,*
*як на цернях — ружы...*
*І з болю родзіцца дзіця, каб жыць.*

*Адважна лёсу камяні ўспрымаю.*
*Баліць душа, але ў душы спакой.*
*Пячэ душа агнём, але стрываю.*
*Завострыць раны — не прытупіць бой.*

*Не быць начы!*
*Няма жыцця без сонца.*
*Узыдзе сонца, азарыць акно.*
*Хлусня хлуслівых страціць абаронцаў*
*і волавам апусціцца на дно.*

*А праўда — то не кліч, штыком падперты,*
*прыгодны злыдням для нячыстых спраў.*
*А праўда — з лёсаў, з душ, з народных нетраў,*
*з цярпення, што народ ператрываў.*

*Ліхой хлусні бяссільны крык варожы.*
*Да дзён прыгону страшны паварот.*
*А праўда ўсё ж жыве і пераможа!*
*Мы вам не слугаў племя — мы народ!*

## «БОГ АДНЯЎ РОЗУМ»

Гутарка карэспандэнта Мікалая Жукава з праваслаўным архіепіскапам Віленскім і Літоўскім Хрызастомам.

— Уладыка, якая Ваша ацэнка падзей, што адбываюцца сёння ў Літве?

— Усё, што адбываецца ў Літве,— гэта паўтор таго трагічнага мінулага, якое, здаецца, мы ўжо асудзілі і сказалі, што звароту да гэтага няма. У Вільні пралілася кроў. Неабходнасці ў гэтым не было абсалютна ніякай. У мяне такое ўражанне, што хтосьці штучна стварае міжнацыянальныя праблемы, камусьці гэта неабходна. З палітычнага пункту погляду, напэўна, можна апраўдаць любыя акцыі, і, відаць, палітыкі разумеюць адзін аднаго. Яны даруюць адзін аднаму. У адных на сумленні В'етнам, у другіх — Афганістан, у трэціх — Персідскі заліў. У іх свая мараль, свае меркі. Але калі гаварыць з агульначалавечых пазіцый, дык усё гэта вельмі сумна. Масква разумее, што творыць беззаконне. Цэнтральныя сродкі масавай інфармацыі быццам вады ў рот набралі, быццам тут няма танкаў, не льецца кроў бязвінных людзей. Рафік Нішанаў, дакладваючы членам Вярхоўнага Савета СССР, казаў, што ў Літве няма армейскага ўмяшання. Але на справе гэта далёка не так. Гэтая мана нарадзілася ў 1917 годзе, і з кожным годам яна множыцца. Прычым яна ўвесь час прыкрываецца лозунгамі, з'яўляецца ў нейкім ружовым адзенні. Гарбачоў дзейнічае зусім не горш, чым Сталін і да яго падобныя, хоць сам ён іх асуджае. Усё, што робіцца зараз у Літве, можна ахарактарызаваць адным словам «ганьба».

— Якое ж, на Ваш погляд, выйсце з такога становішча?

— Верагодна, выйсця з гэтага тупіку ў нас няма. Я гляджу з пазіцыі духоўнай маралі. Чалавек, які валодае гэтымі паняццямі, не здольны падняць руку на мірнага чалавека.

Усё гэта зваліцца на галовы нашых з вамі суайчыннікаў у Літве і ў іншых рэспубліках. Водгалас будзе паўсюль. Цалкам скампраметавала сябе армія, не дбаючы пра свой аўтарытэт, яна страляе ў мірных людзей.

У краіне хаос. Гэтай сітуацыі вельмі будзе адпавядаць наступны выраз: «Калі Бог вырашае пакараць народ — ён адымае розум». Сёння Бог адняў розум у тых, у чыіх руках улада і сіла.

«Республика». (Незалежны тыднёвік Літвы, № 2, 1991). Пераклад к рускай мовы.

**Трагічныя падзеі ў братняй Літве не заглушылі нават гром бомбавых выбухаў на Бліжнім Усходзе. Якім ужо разам штурмавікі ў армейскай амуніцыі ўмешваюцца з аўтаматамі ў палітыку. Забіваюць бяззбройных. Забіваюць жанчын. Падлеткаў. Армія, створаная дзеля абароны народа, па загаду нейкага падпольнага «Комитета национального спасения» прымяніла зброю супроць самога народа, парушыла Канстытуцыю. «Інтэрнацыяналісты» абмылі «нацыяналістаў» іх жа ўласнай крывёю. У гэтыя трывожныя дні сумленныя людзі ўсіх народаў, парламенты рэспублік, дэмакратычныя грамадскія арганізацыі гнеўна і рашуча асуджаюць гэтыя ганебныя дзеянні путчыстаў. Лепшыя рускія пісьменнікі звярнуліся да сваіх суайчыннікаў са словамі: «у людей русской культуры есть огромная Россия, а у литовцев — только Литва... Не позволяйте манипулировать жизнью людей ради сохранения партийной и военной власти и отнимать у народов, с которыми так тесно связала нас судьба, их исторический шанс... Свобода неделима»...**

## ЗВАРОТ

### рускага культурнага цэнтра да жыхароў Літвы

Страшнае гора прыйшло ў наш дом. Штурмавыя атрады паветрана-дэсантнага войска СССР ноччу на 13 студзеня атакавалі тэлецэнтр і будынак Камітэта на тэлерадыёвяшчанні, тым самым распачаўшы непрыхаваную агрэсію супраць Літоўскай Рэспублікі. Дэсантнікі гусеніцамі, штыкамі, кулямі змялі заслоны бяззбройных людзей, пракладаўшы сабе шлях па трупах. Ваенны путч, аб неабходнасці якога так доўга трубілі «заединщики», пачаўся. Пралілася бязвінная кроў, і цяпер кожны, хто стаў на бок забойцаў, возьме на душу цяжкі, неадмольны грэх, грэх памагатага ў пачварным злачынстве. Яшчэ ўчора мы маглі спрачацца і сумнявацца, сварыцца на ўрад і парламент, маглі аддаваць свае сімпатыі любой партыі, любому палітычнаму лідэру — сёння, пасля крывавай бойні, гэта ўжо немагчыма. Няма левых і правых, няма лібералаў, камуністаў, беспартыйных: ёсць забойцы і ахвяры. Няма рускіх, палякаў, літоўцаў, ёсць спадручныя ў катаў і сумленныя грамадзяне. Тут няма з чаго выбіраць — тым, вядома, хто не запэцкаў рукі крывёю.

А ёсць і такія. Гэта яны, аб'яднаўшыся напярэдадні ў ананімны камітэт выратавання Літвы, узялі на сябе адказнасць за жыццё і дабрабыт грамадзян, узялі — і распарадзіліся чужымі жыццямі з цынізмам злачынцаў-рэцыдывістаў. Гэта яны, не адпачыўшы нават ад начных крывавых клопатаў, пачаставалі нас першым дэкрэтам новай улады — пастановай аб каменданцкім часе ў сувязі з «частымі выпадкамі мардавання працоўных, прымянення агнястрэльнай і хімічнай зброі»! Што ні слова, дык праўда! Пісалі праект пастановы сёння — і ўжо ведалі, што будуць збіваць, забіваць, прымяняць агнястрэльную і хімічную зброю. Забойцы! Вы будзеце пакараны за свае цяжкія злачынствы, зробленыя з жахлівым цынізмам, разам з генераламі-здраднікамі, якія сталі на шлях ваеннага перавароту. І нічога для вас не зменіцца нават у тым выпадку, калі на чале змовы стаіць ваш вярхоўным галоўнакамандуючы.

Але нават гэты саюз непарушны здраднікаў і злачынцаў не зможа паставіць на калені Літву. Яны могуць захапіць любы будынак, могуць паланіць любога з нас і нават усіх разам, але ім няма дарогі да сэрца ні аднаго сумленнага чалавека. У краіне ўсталявалася двухуладдзе — адны захопліваюць будынкі, іншыя — жывыя душы і жывыя сэрцы.

Рабіце свой выбар, жывыя людзі!

«Республика» (незалежны тыднёвік Літвы, № 2, 1991).

Пераклад з рускай мовы.

# 130 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯЎХІМА ФЁДАРАВІЧА

Мінула 130 гадоў, як нарадзіўся Яўхім Фёдаравіч Карскі — адзін з тых, каго даў беларускі народ славянскай культуры. Сціплыя і рэдкія публікацыі аб гэтай даце прамільгнулі ў нашым друку...

Адзіны з беларусаў, удастоеных звання акадэміка Пецярбургскай Акадэміі навук у галіне філалогіі, рэктар Варшаўскага, прафесар Петраградскага універсітэтаў. Правадзейны член Інстытута беларускай культуры, Чэшскай Акадэміі навук, уладальнік імянных прэмій і медалёў Ламаносава, Бацюшкава, Ахматава. Старшыня Слоўнікавай камісіі і камісіі па адкрыццю ў Мінску Беларускага дзяржаўнага універсітэта...

У цывілізаваным свеце шануюць такія імёны, з гонарам, захапленнем, а то і хваліваннем прамаўляюць іх. А мы — «сціплыя, працавітыя і шчырыя беларусы» — не навучыліся пакуль аддаваць даніну павагі слынным землякам, не хочам ведаць сваю гісторыю, цураемся роднай мовы. Затое ўгодлівага пакланення ўсяму небеларускаму у нас хоць адбаўляй. Таму і гібеем у бездухоўнасці.

## РАДАСЦЬ АДКРЫЦЦЯ — НАПЕРАДЗЕ

Аўтар звыш сямісот навуковых прац. Лінгвіст і літаратар, этнограф і фальклярыст, гісторык і бібліёграф, педагог — цяжка злічыць усе грані яго таленту. Здзіўляе энцыклапедычнасць кругагляду вучонага, фундаментальнасць і строгасць яго тэарэтычных абагульненняў, шырыня фактычнага матэрыялу даследаванняў. Разнастайныя манаграфіі і падручнікі Карскага па славістыцы і русістыцы, кнігі па славянскай палеаграфіі з'яўляюцца, бясспрэчна, каштоўнай скарбніцай, якая шчодра ўзбагачае многія пакаленні навукоўцаў.

Але галоўны клопат яго жыцця — беларусістыка. І гэта не выпадкова, бо нарадзіўся і вырас ён на беларускай зямлі, сярод нашых продкаў спасцігаў сваю першую навуку, сярод іх сталеў і мужнеў. І ўсё лепшае, чым багаты беларускі народ, увабраў у сябе. Адсюль і вера ў лепшую долю гэтага народа, выказаная мовай навукі ў шматлікіх кнігах і артыкулах.

Ужо ў студэнцкія гады Я. Ф. Карскі цікавіцца беларускім фальклорам, на аснове якога прыступае да сур'ёзнага вывучэння і даследавання беларускай мовы. Як вынік у 1886 годзе — адразу пасля заканчэння Нежынскага гісторыка-філалагічнага інстытута — ён выдае кнігу «Агляд гукаў і форм беларускага маўлення», у якой зрабіў па тым часе найбольш поўнае апісанне сістэмы вусна-гутарковай мовы беларусаў.

Гэтай працай дваццаціпяцігадовы вучоны сцвердзіў сябе як сталы даследчык, які першым палічыў нашу мову самастойнай славянскай мовай: «Беларуская гаворка павінна лічыцца самастойнай: сукупнасць яе характэрных рыс не паўтараецца ні ў адной славянскай мове». Здаецца, простае выказванне, але — калі ведаць, што пад «гаворкай» Я. Ф. Карскі разумеў мову — у ім вялікі сэнс і мужнасць аўтара. Бо трэба было мець волю і сілу духу, каб рабіць такія вывады ў варунках амаль усеагульнага непрызнання ў навуковым свеце беларускай мовы як самастойнай. Прынамсі, нават такія вядомыя вучоныя, як І. І. Сразнеўскі, А. А. Патабня, А. І. Сабалеўскі, безапеляцыйна сцвярджалі, што гэта дыялект велікарускай мовы.

Сапраўдная любоў да Радзімы асабліва абвострана выяўляецца ў цяжкія для яе хвіліны. Калі любіць — азначае ахвяраваць сабою. Нямала такіх прыкладаў дае наша гісторыя. Францішак Скарына, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, Цішка Гартны, Уладзімір Караткевіч... Яўхім Фёдаравіч Карскі — сярод іх. І сярод іншых патрыётаў роднай зямлі, якія дапамагаюць беларусам усвядоміць сябе народам...

Кніга, «роўную якой па грунтоўнасці наўрад ці знойдзеш у галіне вывучэння іншых славянскіх народаў» (акад. Б. М. Ляпуноў) — «Беларусы». Трохтомная праца вучонага, нават пры ўсіх яе недахопах, раскрывае такую адметную якасць яго спадчыны, як энцыклапедычнасць зместу пры глыбіні і маштабнасці думкі. Трыццаць сем гадоў жыцця прысвяціў манаграфіі даследчык, прааналізаваўшы і сінтэзаваўшы ў ёй багатыя і разнастайныя матэрыялы беларусазнаўства. Як справядліва зазначае даследчык творчасці Карскага М. Г. Булахаў, прадстаўнікі многіх гуманітарных навук знаходзяць у «Беларусах», як і ў іншых працах вучонага, адказы на розныя пытанні. Лінгвісты бачаць узорнае апісанне беларускай мовы па ўсіх раздзелах — ад яе зараджэння да пачатку XX ст.; фальклярысты знаёмяцца з цікавымі запісамі народных твораў і іх разгорнутай характарыстыкай; літаратары спасцігаюць працэс развіцця вуснай народнай творчасці і мастацкай літаратуры беларускага народа, пачынаючы са старажытнасці; этнографы чэрпаюць каштоўныя звесткі пра побыт, звычаі, святы і павер'і беларусаў; гісторыкі шукаюць факты аб працэсах фарміравання беларускай народнасці і нацыі; тэкстолагі — дакладныя рэканструкцыі старажытных тэкстаў; бібліёграфы — лаканічныя і змястоўныя агляды філалагічнай літаратуры. І гэты пералік можна доўжыць.

Які грунтоўны падмурак для нацыянальнай навукі! Яўхім Фёдаравіч верыў у яе. І таму, відаць, эпіграфам да «Беларусаў» узяў словы Янкі Лучыны:

*Сонца навукі скрозь хмары цёмныя*
*Прагляне ясна над нашай нівою.*
*І будуць жыці дзеткі патомныя*
*Добрай доляю, доляй шчасліваю.*

Трэба верыць! Прабіўшыся праз напластаванні гістарычнага бяспамяцтва і нацыянальнага нігілізму, мы павінны прыйсці да сапраўднага Адраджэння, у святле якога па-новаму ацэнім і спадчыну Яўхіма Фёдаравіча Карскага. Радасць яго адкрыцця — наперадзе.

**Уладзімір ЛАМЕКА.**

У гэтым нумары «Нашага слова» пачынаем друкаваць працу Я. Ф. Карскага «Беларускі народ і яго мова». Чытачам прапануецца першы раздзел «Граніцы племя».

# БЕЛАРУСЫ



**Ужо на першым часе існавання таго ці іншага племя вядомыя фізічныя ўмовы занятай ім краіны так ці інакш адлюстроўваюцца на станаўленні яго характару, які ў сваю чаргу накладвае пэўны адбітак і на саму мову. Сувязь гэтая паміж моваю і прыродай краіны бесперапынная на працягу ўсяго існавання народа. Прырода пакідае вядомы след у народнай творчасці, вымушае яе знаходзіць належныя формы для выяўлення сваёй красы, свайго багацця ці беднасці. Потым і сам знешні ўплыў аднаго народа на другі (роднасны ён ці далёкі), на яго побыт, светасузіранне знаходзіцца таксама ў цеснай сувязі з прыродай краіны: з упарадкаваннем яе межаў, даступнасцю і зручнасцю шляхоў зносін. Народ з адкрытымі межамі лягчэй дапускае пабочныя ўплывы, чым той, у якога межы недаступныя. Словам, прырода вельмі ўздзейнічае на плынь народнага жыцця, яго гісторыю, а разам з тым і на развіццё мовы, а таксама змены ў ёй.**

(Карский Е. Ф. Белорусы. Вильна, 1904, т. 1, с. 3).

*Праф.-акад. Я. КАРСКІ*

## I ГРАНІЦЫ ПЛЕМЯ

Беларускі народ займае месцазнаходжанне, кажучы агульна, на захад ад велікарускага і на паўночны захад ад украінскага народаў, прадстаўляючы на сваіх крайніх граніцах змешаныя, пераходныя да тых і другіх, гаворкі. На захадзе ён мяжуе з палякамі, літоўцамі і латышамі.

Асноваю для азначэння прыналежнасці да беларускага племя і яго пашырэння наогул можа служыць толькі жывая народная мова, неаддзельная прымета беларускай народнасці на працягу яе шматвяковага жыцця, і паходжанне ад беларусаў-бацькоў. Калі асобныя члены гэтай народнасці з тых ці іншых прычын трацяць матчыну мову, яны перастаюць разумець сваю прыналежнасць к данаму народу. Разам з чужою моваю яны прымаюць чужыя звычаі, уклады і для свайго народа з'яўляюцца страчанымі.

Часам гэтакую ж важную прымету народнасці дае рэлігія, як у яўрэяў. Але беларусы ў адносінах да рэлігіі нястойкія і ў гэтым выпадку часткова падобныя да сваіх суседзяў (літоўцаў і палякаў — каталікоў), часткова да сваіх бліжэйшых сваякоў (велікарусаў і украінцаў — праваслаўных). Пры гэтым вельмі памыляюцца тыя непрактычныя і павярхоўныя даследчыкі, а часам і несумленныя палітыкі, якія каталікоў-беларусаў (тых, што не гавораць дома па-польску) лічаць палякамі. Каталіцтва на Беларусі замест праваслаўя з'явілася больш-менш прыметным толькі па шлюбе Ягайлы з Ядвігаю (1386 г.), у XIV стагоддзі; яно значна было аслаблена ў час пашырэння ў XVI стагоддзі пратэстантызму.

Трапіўшыя сюды ў канцы XVI стагоддзя езуіты значна паднялі каталіцтва, асабліва сярод вяльможнага панства і часткова сярод мясцовага насельніцтва, але ўсё гэта былі прадстаўнікі беларускага народа і літоўцаў: палякі-каланізатары з'явіліся на Беларусі толькі пасля Люблінскай уніі (1569 г.), галоўным чынам шляхта і часткова рамеснікі, але, наогул, у нязначнай колькасці.

Польскай культуры першымі паддаліся вяльможныя беларуска-літоўскія паны, якія потым і зусім апалячыліся; каталіцкая ж маса народу заставалася беларускай, якою застаецца і дагэтуль.

Такім чынам, на Беларусі прыналежнасць да каталіцкай рэлігіі аніяк не можа служыць адзнакай паходжання асобы з польскай народнасці; іншая справа — асобы зусім апалячаныя, г. зн., якія гавораць толькі па-польску і прынялі польскую культуру — гэтакіх прымусам далучаць да беларусаў нельга

З пункту погляду антрапалогіі, самай пэўнай адзнакай прыналежнасці да той ці іншай народнасці служаць фізічныя рысы племя (выгляд, колер твару, будова галавы, колер і форма валасоў і вачэй, форма губ і г. д.). Але ў беларусаў гэтыя рысы не вельмі тыповыя ў параўнанні з велікарусамі і ўкраінцамі, а таксама з палякамі, літоўцамі і латышамі. Апрача таго, у іх няма адзінства тыпу, што і натуральна, бо ў склад беларускай народнасці ўвайшлі розныя плямёны, якія складалі галіны рускіх славян; некаторыя паміж іх, як сведчыць летапісец, былі нават сваякамі ляхам. На заходняй ускраіне з беларусамі зліліся некаторыя літоўскія і латышскія плямёны. Змяшэнне адбываецца і цяпер. Такім чынам, фізічныя рысы могуць служыць толькі дапамогаю для гістарычнай этнаграфіі.

Разабрацца ў заблытаных гістарычных пытанях дапамагаюць таксама назіранні над бытавымі асаблівасцямі народа: будовай хат, вопраткай, работамі, а таксама над прымхамі і, наогул, унутраным жыццём і — скажам так — культурай народа. Але і гэта толькі падручныя адзнакі, у дадатак яшчэ мала даследаваныя.

Такім чынам, матчына мова з'яўляецца адзінай найбольш пэўнай прыметай адмежавання беларусаў ад іншых плямёнаў і народаў. Вось чаму тыя жыхары арлоўскага і калужскага Палесся, якія гавораць на паўднёвавелікарускай гаворцы, павінны быць залічаны да паўднёвых велікарусаў, хоць продкі іх, няма сумнення, былі беларусы; тыя літоўцы Віленшчыны, якія гавораць цяпер толькі па-беларуску, натуральна, пападаюць у беларускія межы; а тыя апалячаныя беларусы, што жывуць у Шчучыне на Ломжыншчыне, само сабою адыходзяць да палякаў. Значыць, акрэсленыя намі беларускія межы з'яўляюцца і картай беларускай мовы.

Беларускія пасяленні асобнымі астраўкамі, падчас даволі значнымі, сустракаюцца і за акрэсленымі намі межамі, а беларуская мова чуецца і ў многіх іншых месцах; але там беларусы ўжо не складаюць большасці. Зразумела, што і іх інтарэсы рознага характару павінны быць узяты пад увагу. Але, звычайна, у мясцовасцях, дзе змешана жывуць розныя плямёны, пунктуальнае адмежаванне адной народнасці ад другой, часам па прычынах палітычнага характару, звычайна робіцца на працэнтных адносінах аднаго народа да другога. Толькі на той выпадак этнаграфічная граніца праводзіцца ў бок данага народа, калі прадстаўнікоў яго ў спрэчным пункце ёсць не менш 50-ці%, а пры некалькіх народах — працэнт большы, як кожнага з іншых. Пры вызначэнні нацыянальнай прыналежнасці беларускіх гарадоў і мястэчкаў, дзе большасць насельніцтва складаюць яўрэі, прымаецца ў рахунак акалічнае сялянскае насельніцтва, з аднаго боку, з другога — працэнтныя адносіны розных народнасцяў тае часткі павета, якая адыходзіць да беларускага прастору*.

Ідучы з захаду на ўсход, граніца гэтая прыкладна можа быць праведзена — з боку велікарусаў — па самых паўднёвых частках паветаў: Апочыцкага, Велікалуцкага і Таропецкага Пскоўскай губ.; па паўднёва-заходніх ускраінах Асташкаўскага і Ржэўскага паветаў Цверскай губ.; далей граніца ідзе па Смаленшчыне, захопліваючы ў беларускі бок Бельскі, Парэцкі, Духаўшчынскі, Смаленскі, Красненскі, Рослаўльскі (часткова са змешаным насельніцтвам), Дарагабужскі і Ельнінскі паветы, апрача ўсходніх ускраін двух апошніх; затым яна датыкаецца самай заходняй часткі Жыздрынскага павета Калужскай губ. і падыходзіць да рэчкі Дзясны на Арлоўшчыне, аддзяляючы ў беларускі бок дзве крайнія воласці Бранскага павета і некалькі вёсак Трубчэўскага; па р. Дзясне граніца ўваходзіць у Чарнігаўскую губ., аддзяляючы ўжо беларусаў ад украінцаў. Тут яна ідзе ў паўднёвым кірунку Ноўгарадсеверскага павета і далей да граніцы з Магілёўскай губ., захопліваючы ў беларускі бок паветы Чарнігаўскай губ.— Мглінскі, Старадубскі, Суражскі, Навазыбкаўскі, частку Гарадзянскага (ва ўсіх паветах змешанае насельніцтва); ад м. Любеча граніца спускаецца ўніз па Дняпры да

# КАРСКАГА

мяжы Меншчыны з Кіеўшчынай, захопліваючы ўвесь Рэчыцкі павет у беларускі бок; каля Мазыра яна ідзе па рацэ Прыпяці на захад да скрыжавання з граніцай Пінскага павета і далей да ўтоку ў Прыпяць ракі Бобрыка; па гэтай апошняй рэчцы граніца ідзе на паўночны захад аж да возера Выганаўскага. Адгэтуль граніца заварочваецца на паўднёва-заходні бок па мяжы Гродзенскай губ. да возера Чорнага і далей на захад цераз Пружаны, Белавеж да р. Наравы пад м. Суражам; адгэтуль — амаль па простай лініі к захаду ад Беластоку, па Сакольскім павеце на поўнач у кірунку на Аўгустова Сувалскай губ., забіраючы са змешанага насельніцтва Гродзеншчыны на долю беларусаў большую паўночна-ўсходнюю частку яе. Пачынаючы ад Аўгустова, паўночна-заходняя граніца спачатку ломанаю лініяй ідзе на ўсход па Аўгустоўскім, Гарадзенскім паветах, а затым — па Лідскім і Ашмянскім паветах Віленшчыны, а далей, не даходзячы да г. Вільні, вёрст на сорак з паўднёвага захаду (Троцкі п.) і поўначы (у Віленскім п.),— у Свянцянскім павеце пераходзіць амаль на паўночны кірунак, захопліваючы ўсходні куток Новааляксандраўскага павета Ковенскай губ. і ўсходнюю частку Ілуцкага п. Курляндскай губ. да р. Зах. Дзвіны, больш на паўночна-заходні бок ад Дзвінску. Затым граніца ідзе на ўсход да м. Прыдруйску, а ўжо адтуль — ломанаю лініяй на поўнач па паветах Дрысенскім і Люцынскім Віцебшчыны, прыкладна да ст. Корсаўкі. Такім чынам, тэрыторыя беларускага народа абдымае гэтакія губерні: Магілёўскую — усю (у 1920 г. да 2.243.310 чалавек), Віленскую (да 1.325.980 ч.), Віцебскую (да 1.133.660 ч.), Гродзенскую (блізка 1.032.600 ч.), Менскую (б. 2.547.000 ч.) — большую частку, Смаленскую (б. 867.500 ч.) — палавіну, Чарнігаўскую (б. 258.900 ч.) — значную частку; да Беларусі належаць таксама невялікія пасёлкі ў губ.: Калужскай (блізка 10.230 ч.), Ковенскай (б. 61.570 ч.), Курляндскай (б. 23.890 ч.), Арлоўскай (б. 25.000 ч.), Пскоўскай (б. 41.080 ч.), Сувалскай (б. 26.000 ч.) і Цверскай (блізка 46.230 ч.). У зазначаных прасторах беларусы складаюць галоўную масу насельніцтва, лікам блізка 10.000.000 ч. **

Большасць беларусаў — праваслаўныя, але на заходніх ускраінах ёсць і каталікі; у Сувал. і часткова ў заходніх паветах Гродзеншчыны, Віленшчыны і Віцебшчыны, а таксама ва ўсходніх паветах Ковеншчыны і Курляндшчыны — складаюць большасць каталікі; у нязначнай колькасці каталікі ёсць і ў іншых месцах. У 1897 г. праваслаўных налічвалі 4.661.966 ч., а каталікоў 1.050.285 чалавек.

* Дэталёвае вызначэнне граніц беларускага народа з картай ёсць у нашай кніжцы: «Этнограф. карта Бѣлорусскаго племени». «Петрогр. 1917 г. Изданіе Россійской Академіи Наукъ. Перавыдадзена гэтая праца (Петрг. 1918) «Бѣлорус. Обл. Комитетомъ». Карта выдавалася і асобна.

** Падрабязная статыстыка зроблена намі ў названай вышэй «Этнограф. картѣ». Тут дзеля розных уваг падаём працэнтныя адносіны беларусаў і палякаў згодна з перапісам 1896 г. у пагранічных паветах цалкам (уключаючы і гарады): Люцынскі павет — беларусаў 20,5 %, палякаў 2,18 %; Дрысен. павет — б. 86,24 %, п. 2,3 %; Дзвін. пав. — б. 13,8 %, п. 9,14 %; Свянц. пав.— б. 47,5 %, п 6%; Вілен. пав.— б. 26,43 %, п. 20,5 %; Троцкі пав.— б. 15,7 %, п. 11,2 %; Ашмян. пав.— б. 79,9 %, п. 1,7%; Лідскі пав.— б. 73,1 %, п. 4,6 %; Гарадзен. пав.— б. 65,7 %, п. 5,6 %; Аўгуст. пав.— б. 32,46 %, п. 49,13 %; Сакольск. пав.— б. 83,8 %, п. 1,15 %; Беластоц. пав.— б. 26,1 %, п. 33,9 %; Бельск. пав.— б. 80,7 %, п. 1,5 %; Пінскі пав.— б. 74,3 %, п. 3 %.

(Працяг будзе).

# ХТО ЎТРЫМАЕ ПАХОДНЮ КАЛІНОЎСКАГА?

*ІНТЭРВ'Ю З ПЕРШЫМ ЛАЎРЭАТАМ НОВАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ*

НОВАЯ Дзяржаўная прэмія ў галіне літаратуры з'явілася на Беларусі — імя Кастуся Каліноўскага. Яна, першая, прысуджана Віктару Карамазаву за кнігу публіцыстычнай прозы і эсэ «Проста ўспомніў я цябе...» Наш карэспандэнт сустрэўся з пісьменнікам і задаў яму некалькі пытанняў.

**— Ёсць ураженне, што Вашая творчасць не мае глыбокіх заняпадаў, крызісаў. Вы шмат пішаце, друкуецеся. Гэтак было і ў застойныя часы, і зараз. Гэта вынік вялікай працы? Ці Вам проста шанцуе?**

— Напісаць мастацкі твор, кнігу — праца цяжкая. І калі пісьменніку аднойчы пашанцуе, ён гэтага, думаю, варты. Мой літаратурны лёс няроўны. Вы чалавек малады, вашы чытацкія ўражанні сфарміравала літаратура пераважна апошніх гадоў. А я пачаў пісаць значна раней. Ды і ўспомнім выказванне Хемінгуэя: твор — гэта адна восьмая айсберга, якая відаць, а сем восьмых — праца, якую ніхто не бачыць. Пасля вучобы ў Менску і першых апублікаваных апавяданняў я, у адрозненне ад шмат якіх сваіх аднагодкаў і паплечнікаў літаратурнае маладосці, апынуўся за межамі літаратурнай сталіцы і шмат гадоў працаваў у раённых і абласных, больш — у раённых, газетах, дзе да мастацкага слова статус жорсткі. Мая творчая праца тады як бы правалілася. Але адтуль удалося і шмат узяць. Сцежкі газетчыка звялі з людзьмі, вёскамі, куточкамі Бацькаўшчыны, якія на ўсё жыццё сталі творчай нівай. Працу ў газеце я любіў, але мастацкае слова газета калечыла. І, можа, першы раз мне пашанцавала, як пісьменніку, калі я вырваўся з газеты, забраўшы з яе ў сваю кайстру нямала і плённага.

**— Людзям, якія злучаюць свой лёс з літаратураю, ёсць чаму павучыцца ў Вас як у мастака слова. Дзе Вы знаходзіце моўны матэрыял для сваіх твораў? Гэта слоўнікі, творы пісьменнікаў, уласны багаж?**

— Цікавіцца слоўнікамі карысна, асабліва добрымі слоўнікамі, якіх, на жаль, у нас вельмі мала. Такіх, скажам, як слоўнік Бялькевіча. Але для мастака найбагацейшыя крыніцы мовы ў жывых людзях, на сцежках-дарожках, па якіх мы ходзім і ездзім, у глыбінях сваёй духоўнай памяці. Там і патрэбныя нам словы, і боль, без якога слова мёртвае, і вобразы, і сюжэты. Мова — гэта не арыфметыка слоў, як шмат хто сярод нас думае, псіхікі, геннай памяці, таемны дух пісьменніка. Ну і, вядома, пісьменнік востра адчувае літаратурнае асяроддзе. На мяне моцны ўплыў робіць слова Максіма Гарэцкага. Яно ўплывае на стан душы. Гэта, думаю, не ў апошнюю чаргу ад ведання і адчування Мсціслаўшчыны, дзе я неаднойчы пятляў сваімі журналісцкімі сцежкамі і мову Гарэцкага чуў ад яго землякоў у Багацькаўках, Малой і Вялікай, у Цёмным Лесе, у Шамаве, у Белях, у іншых ягоных вёсках. І мову, і стылёвую адметнасць, і натуральную публіцыстычнасць, якая ад характару, ад тэмпераменту чалавека.

**— Ці апраўданае існаванне прэміі імя Кастуся Каліноўскага на Беларусі сёння? Ці дарасло нашае грамадства да таго разумення волі, як разумеў яе Каліноўскі?**

— Наша сённяшняе грамадства надзвычай стракатае, супярэчлівае, канфрантацыйнае. Яно дзесяцігоддзямі жыло ў берагах штучнай ідэалогіі, знявечанай маралі. Не аднолькавае і разуменне ім волі. Мы маем пляц Волі ў Менску. Які ён стварае вобраз? Ды такі, які адпавядае той самай волі, што дазволена беларускаму народу адміністрацыйна-камандным жэзлам кіруючай сістэмы. Але ж народ імкнецца да іншай волі. І на гэтым шляху Каліноўскі — постаць вельмі светлая, яна абуджае самасвядомасць беларусаў. Гэта паходня, з якой мы можам знайсці і волю, і годнае жыццё. Таму і прэмія імя Кастуся Каліноўскага — патрэбная Беларусі. Як патрэбны помнік яму ў Менску, як патрэбны ягоны вобраз у школьных і не толькі ў школьных падручніках, па якіх нашы дзеці, наша моладзь вучацца быць Людзьмі. Акрамя таго, нам вельмі неабходна сёння як найглыбей даследваць гісторыю паўстання 1863 года, месца ў ім Каліноўскага, выдаць на роднай мове ўсю, без аніводнай купюры, яго літаратурную спадчыну.

**— У наш складаны час, калі грамадства падзялілася на лагеры, што канфрантуюць адзін з адным, у чыіх шэрагах быў бы Кастусь Каліноўскі? Ці быў бы ён сёння членам КПСС?**

— Кастусь Каліноўскі і сёння здольны аб'яднаць свой народ. Ён застаецца там, дзе беларусы адваёўваюць сваё права на Зямлю і Волю, на вартае цывілізаванага грамадства жыццё.

**— Як Вы думаеце, якімі якасцямі павінна валодаць кніга, вартая прэміі імя Кастуся Каліноўскага?**

— Такая кніга павінна быць патрыятычнай і гуманістычнай, праўдзівай і сумленнай. І яшчэ трэба памятаць, што прэмія выдаецца за творы мастацкай літаратуры. Значыць, яна павінна мець адметны мастацка-публіцыстычны твар, стыль, вобраз.

**— Дзякуй за размову. Дазвольце павіншаваць Вас з высокай узнагародай, пажадаць новых творчых здабыткаў.**

Гутарыў Лявон ВАШКО.

# ◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆ *Студзень* ◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

**У беларускай мове ёсць некалькі словаў, якімі азначаюць адчуванне недахопу цяпла,— холад, мароз, сцюжа. Шмат іх у беларускіх гаворках: стылеча, зімната, сівер, халадэча, ледзень, люты холад, мароз-траскун... Зімовая сцюжа давалася ў знакі людзям, але, вядома, нікога не палохала. «...мужчыны...,— як напісаў Якуб Колас у «Новай зямлі»,— ...Мароз пахваляць і палаюць, А падхадзіўшысь каля дому, Бяруць сякеру, сані, бому і едуць ў лес вазіць калоды — Ляжаць на печы няма моды. І хоць мароз крапіць пякучы, Да ног даходзіць скрозь анучы... Мужык жыве і не шманае...» Гаспадарлівы ні сцюжы, ні спёкі не баіцца,— пераконвае і беларуская прымаўка.**

**Чаму ж першы месяц называецца ў нас «халодным» словам? Ні ў кога з суседзяў няма такой назвы. Студзень — году пачатак, а зіме — палавіна. Сонца на лета, зіма — на мароз...**

**Няўжо нашы продкі так баяліся марозу?**

**Слова студзень не толькі сцвярджае адметнасць нашай мовы, але і яе старадаўнасць. Гэтае слова з'явілася раней, чым славяне пачалі займацца земляробствам і зімовай парою падсякалі дрэвы, каб пасля выпаліць лес на ляда. На гэты перыяд славянскай гісторыі прыпадае, відаць, час узнікнення ўкраінскага слова січэнь. А наша слова старэйшае і ад праславянскага слова просінец — назвы першага пасля зімовага сонцавароту месяца.**

**Студзень — назву халоднай пары году прыдумалі нашы прашчуры, калі яшчэ жылі на далёкай прарадзіме ўсіх індаеўрапейскіх народаў — у Малой Азіі. Яны не баяліся халадоў, але вымушаны былі лічыцца з імі, бо ад сцюжы трэба было аберагаць прыплод гавяды. (У беларусаў захаваўся звычай браць цялят і ягнят у хату, калі надараліся вялікія маразы).**

**Вада для пастухоў, што пасвілі гавяду ў гарах Малое Азіі, заўсёды была сцюдзёнай, бо цякла з ледавікоў. І пазней, калі яны вымушаны былі (відаць, ужо ў іншым краі) капаць глыбокія ямы, каб здабыць ваду, то яна там была такой жа сцюдзёнай. Магчыма таму і калодзеж назвалі студняй. Крыніцы нашы продкі, відаць, убачылі пазней і назву іх перанялі ад тых, хто ўжо даўно піў з іх крынічную ваду.**

Здзіслаў СІЦЬКО.

*РЭХА ◆ РЭХА*

## Калі і хто загаворыць па-беларуску

З першага верасня мінулага года ўступіў у сілу Закон аб дзяржаўным статусе беларускай мовы, і вось зараз карэспандэнты рэспубліканскіх газет дапытваюцца ў кіраўнікоў рэспублікі — калі хто з іх загаворыць па-беларуску? Бо ці нам сябе не ведаць: пачне размаўляць начальства — потым і мы ўжо без страху. Таму і ў Васіля Шаладонава, намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, журналісты таксама запыталіся: ці не пакажуць тут прыклад члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета ўслед за Шушкевічам і Садоўскім? «Спадзяюся, што прыйдзе час»,— аптымістычна адказаў народны дэпутат.

Што ж, будзем спадзявацца на прагрэс і ў гэтым накірунку. Праўда, пакуль што кожны разумее яго ў меру сваёй сацыяльнай падрыхтаванасці. Адны клапоцяцца пра беларускамоўныя класы і тэлевізійныя праграмы, а іншыя нават беларускае слова імкнуцца прымяніць супроць саміх носьбітаў нацыянальнай культуры. Адзін з прыкладаў такога плюралізму прадэманстравала ў канцы мінулага года рэдакцыя сумнавядомага рускамоўнага органа КПБ часопіса «Политический собеседник». Зразумеўшы, відаць, што пастаянная брыдота на рускай мове можа выклікаць нарэшце масавую непрыязь нават да самой гэтай мовы, там вынайшлі нешта новенькае. Вылілі немалы цэбар памыяў на беларускіх пісьменнікаў... па-беларуску. Відаць, каб тых мацней працяло. Так бы мовіць, вашым пальцам ды вам у вока.

## І тут прыцярпеліся?

**Вядома, каму ў нашай рэспубліцы належаць галоўныя сродкі масавай інфармацыі. Праўда, з уводам у дзеянне Закона аб друку пачалі памалу падаваць голас і незалежныя ад КПБ (са Статутам КПСС) выданні, але гэта ў асноўным пакуль усё той жа самавыд і жабрацтва — ні паперы, ні сапраўднага доступу да друкарскага станка. А калі і падпусцяць гаспадары, то... Узяць, скажам, выпадак з газетай «Добры вечар», заснавальнікам якой стаў Мінскі гарсавет. Мінчукі, афармляючы на яе падпіску, спадзяваліся, што гэтая новая вячэрняя газета стане незалежным дэмакратычным органам друку. У процілегласць ангажыраванаму гаркамаўскаму «Вечернему Минску» з яго сумнавядомым ачарніцельствам нацыянальнага дэмакратычнага руху пад гучныя заклікі мацаваць «гражданское согласие».**

**Але не паспеў выйсці другі нумар «Добрага вечара», як старшыня Мінскага гарсавета А. Герасіменка (які, дарэчы, заваяваў аўтарытэт у гараджан арганізацыйна - гаспадарскімі здольнасцямі і добрасумленнасцю) ужо вымушаны прасіць прабачэння ў падпісчыкаў. Аказваецца, гарадскі Савет пераацаніў свае магчымасці: уласную газету няма дзе выпускаць! Вось і давялося ісці гарадскім уладам на паклон да манапаліста. Гаркам кампартыі «міласціва» пайшоў насустрач: дазволіў часова друкаваць «Добры вечар» на паліграфічнай базе свайго «Вечернего Минска»... тры разы на тыдзень і за кошт... ягонага беларускамоўнага выпуску.**

**Чаму гаркам вырашыў ахвяраваць менавіта беларускамоўным чытачом, здагадацца не цяжка. Памятаеце ж, які беларусы расказваюць анекдот пра ўласную прыцярпеласць?**

## *Што ўжо дзеецца...*

Слухаеш радыё, глядзіш тэлеперадачы і думаеш: што гэта дзеецца і чым скончыцца! Вядома, беларусам шанцуе не заўжды. Пра гэта трапна сказаў аднойчы Уладзімір Караткевіч, успамінаючы паданне, як Бог рассяляў па зямлі народы. Ну, ды начальства, трохі ачнуўшыся, мы сабе калі-небудзь, можа, і лепшае абралі б. Дык на табе — яшчэ і чарнобыльская бяда! Праўда, гэтае ліха хоць і абрынулася на Беларусь з неба з вясновым ветрыкам і цёплым дажджом, але ж стварылі яго людзі, тая самая партыйна-камандная сістэма, якая і зараз нікуды не знікла. Напачатку перабудовы трохі паслабіўшы ціск, яна цяпер, па ўсім відаць, зноў бярэцца за ранейшы свой занятак. Так што сюрпрызаў можна чакаць штодня. У тым ліку і атамных. Не з Чарнобыля, то з бліжэйшага бору. Бо кажуць жа знаўцы, што Беларусь сёння — ці не самая ў Еўропе мілітарызаваная старонка, і ў яе лясах ракет ці не больш, чымся баравікоў ды падбярозавікаў. Так што нездарма гэткі разумны ды адукаваны чалавек, як Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, адказваючы на запытанне тэлевізійнага журналіста, папярэдзіў, каб мы не надта марылі пра бяз'ядзерны статус. Сказаў, у бліжэйшы дзесятак гадоў — як мінімум. Вядома, мы ж не венгры і не палякі. І не наш рэспубліканскі парламент, які, дзякаваць яму, дружна прагаласаваў-такі за Дэкларацыю пра суверэнітэт Беларусі, распараджаецца, што нам трымаць на сваёй, так бы мовіць, суверэннай тэрыторыі — ракеты ці жывёлагадоўчыя фермы. Ну, а калі з разгону ды падпішам яшчэ Саюзны дагавор у варыянце, прапанаваным Цэнтрам, як яго эўфемічна называюць «рэгіянальныя» палітыкі, дык і ў наступныя семдзесят гадоў ці не пачнем нават размаўляць па Указах Цэнтральнага Прэзідэнта. Можа, наша парламенцкая апазіцыя і заявіць чарговы пратэст, але хто яе будзе слухаць? Колькі там чалавек? Ад сілы два тузіны. Дык і то: у чарговы раз выступіць сакратар ЦК КПБ Аляксей Камай і з дапамогаю паслухмянага БЕЛТА адразу ва ўсіх газетах рэспублікі прынародна павучыць, як павінна сябе паводзіць апазіцыя і асабіста дэпутат Зянон Пазьняк. А астатнія ж у нашым парламенце — спрэс «аднадумцы» Аляксея Сцяпанавіча. Восемдзесят пяць, калі не болей, працэнтаў «таварышаў па партыі». Дружна націснуць электронныя кнопкі — і мы ўсе апынемся там, дзе яны пажадаюць... — у сацыялізме. За яго ў Маскве прагаласавалі ўжо і нашы абраннікі. Праўда, нават такі дасведчаны ў сацыялістычнай эканоміцы чалавек, як Аляксандр Жураўлёў, не зразумеў усё ж: за каторы «ізм» цяпер яму змагацца — «казарменны»? «поўны»? «развіты»? «з чалавечым тварам»? Ну, ды нашага шаноўнага дэпутата ад Беларусі не толькі назва чарговага сацыялізму турбавала. Таму ён унёс канкрэтную прапанову: давайце, кажа, прагаласуем, каб з наступнага года не СССР называцца, а па-простаму, гэта значыць, як пры гасударах-імператарах,— Расіяй! Пад апладысменты прагучала! Не ўсе толькі, праўда, ухвалілі, каб гэткі высокі акт ды благаславіў адзін праваслаўны мітрапаліт. Цяпер некаторыя паважаныя людзі па тэлевізару кажуць: то быў перадкалядні жарт беларускага дэпутата. Звышранні пачатак каляднавання, так бы мовіць! Дай Божа!

Ладысь МСЦІСЛАЎСКІ.

## «Семь дней» ... і ні слова па-беларуску

**Менавіта так выглядае ў гэтым годзе новы «информационно-проблемный еженедельник».**

**Што зробіш: і журналісты іншы раз могуць, аказваецца, так захапіцца бізнесам, што пачынаюць баяцца нацыянальнай культуры, як нячысцік крыжа. Дзівіць іншае: «сямідзённік» заснавала БЕЛАРУСКАЕ тэлеграфнае агенцтва. Брава! Гэткі казус магчымы толькі на Беларусі.**

# І СМЕХ І ГРЭХ

### КОЖНАЙ ДУШЫ НАСЯЛЕННЯ ПА СВІНЯЧАМУ ХВАСТУ!

**(З выступлення Рыгора Андрэевіча Крывулькі перад службоўцамі з канторы па якасці і рэалізацыі свінячых хвастоў)**

Дарагія таварышчы! Мы жывём у адказнае і сложнае врэмя, кагда, чэстна гавара, нізы хочуць жыць па-стараму, как жылі сабе кагда-та ў 1913 гаду, а некаторыя вярхі ўжэ дажа і могуць. Сложнасць цякушчага маменту яшчо і ў тым, што аднае светлае будушчае, к бальшому сажаленню, ужэ закончылася, а следуюшчае яшчо не началася. Пагэтаму ў гэціх условіях на первы план выступае свінячы хвост как глаўны фактар абшчэственнага прагрэсу і пастраення савяршэнна новага вобшчаства, аснаванага аднімі людзямі для шчасця, чэстна гавара, другіх.

Вам, дарагія таварышчы, даверана очань атвецтвенная, я бы сказаў, у духе нашага неспакойнага врэмені, задача — абяспечыць насяленне высокакачественнымі свінячымі хвастамі ў бліжайшыя гады і на перыяд да двухтысячы пятнаццатага году. З гэтай цэллю і сушчаствуюць паўсяместна канторы па качаству і рэалізацыі свінячых хвастоў.

Перастройка сягодня ставіць нам усё новыя задачы. Как уцвярджалі дрэўнія: штобы харашо пітацца, нада харашо трудзіцца. Іхнае завяшчанне мы даўжны выпаўніць. Ведзь уперадзі ў нас, таварышчы, непачаты край работы па пераўстройству вобшчаства, а такжа, чэстна гавара, гасударственных механізмаў. Нам нечага цяраць: на гэтай зямле мы нарадзіліся, тут і паміраць будзем! (Апладысменты).

З асобянным аптымізмам я сматру на падрастаюшчае пакаленне. Іменна ім прадаўжаць дзела, начатае аццамі. Таварышчы, у двухтысячы пятнаццатым годзе ане будуць дабываць свінячых хвастоў на чатырыста працэнтаў болей, чэм іх дабываецца сяйчас. Гэта дазволіць абяспечыць хаця небальшым свінячым хвастом кажную душу насялення! (Апладысменты).

Асобяннае вніманне, дарагія таварышчы, нада ўдзяліць прапагандзе качаства і рэалізацыі хвастоў. Сваё дзела вы даўжны процівапаставіць разным негатыўным працэсам, што сягодня, чэстна гавара, праісходзяць у Беларусіі. Друззя, к уласці лезуць усякія крыкуны і дэмагогі! Гэці атшчапенцы пад маркаю дэмакратыі задаюць адзін і тот жа вапрос:

— **Кагда загаварым на беларускай мове?**

Аднака мае некаторыя многія калегі шчытаюць: «Нічаво! Нічаво! Глаўнае народ наш любіць!» (Авацыі, крыкі: «Правільна!») Мы даўжны прыдзержывацца гэтай точкі зрэння і даваць на дзеле атпор вражаскім проіскам, то есць ад усёй душы любіць наш народ. А ведзь любіць наш народ, таварышчы,— гэта пачотнае, но і нялёгкае дзела. І тут абязацельна нада паняць: кагда очань каго-нябудзь любіш, так не очань-то проста пра гэта сказаць. Гэція ж адшчапенцы хочуць заманіць нас з прамой дарогі ў балота лжы. Мол, можаце і не любіць, так сказаць, беларускі народ, но гаварыць па-беларуску абязаны. Вот з гэцім мы даўжны рашыцельна і беспашчадна бароцца. Глаўнае, не цяраць веру ў нашыя ідэялы. Прыйдзёт врэмя, кагда кажнаму з гэціх крыкуноў мы прылепім па свінячаму хвасту, чэстна гавара, да аднаго места. Пусць будуць, как і кажная другая душа насялення, хрукаць сабе пад нос і не дэмагогію разводзіць, панямаеце лі, а дзяйствіцельна народ свой любіць, моўча, как гэта паложана ў вобшчастве. А палезе хто сваім свінячым рылам к уласці, так па лычу яму, па лычу, па лычу... І ваабшчэ, язык — гэта пяражытак прошлага. І без языка народ любіць наш можна. Гэтак я панімаю любоў да народа, ягонага гістарычнага наследдзя і, чэстна гавара, чалавечаскага фактару.

Пагэтаму, дарагія таварышчы, нада спяшыць! Заўтра ўжэ можа быць позна! (Несціхотныя апладысменты).

Застэнаграфаваў
Ваш Ко-ко.

### РАДЫЕТРАСЯНІЗМ

**Вясковая бабуля слухае перадачу Маскоўскага радыё:**

— **Штосьці не зразумею,— журыцца старая,— на якой гэта мове яны балбочуць.**

**Праз паўгадзіны транслірують беларускамоўную перадачу з Мінска.**

— **Вось цяпер усё зразумела,— кажа бабуля,— гэта ж па-нашаму, па-руску!**

(Падслухала «Чырвоная змена»).



Малюнак Ігара Новікава з выставы «Карыкатуры-90».
Фотарэпрадукцыя **Уладзіміра Крука.**

## • З ЛЯКАРНІ СПАДАРА АЛЕСЯ •

**Шаноўны чытач!**

Яшчэ ў пачатку 80-х гадоў па просьбе таленавітай зельшчыцы Зоські Верас у Гудзеўскім музеі мы афармілі стэнд «Лекавыя зёлкі». Хутка пераканаліся, што адзін стэнд праблемы народнага лячэння не вырашыць, і пачалі збіраць матэрыял для будучага музея народнай медыцыны.

Вынікі нашай дзейнасці паказалі, што шлях, абраны намі, патрэбны шмат каму.

Я сам доўга і безнадзейна лячыўся традыцыйнымі метадамі ад цяжкага захворвання кішэчніка. Здавалася, што паратунку няма. І о, цуд! За некалькі месяцаў сам вылечыў захворванне, з якім каля 15 гадоў змагалася беспаспяхова навуковая медыцына. Калі парадантоз амаль знішчыў усе мае зубы і дзясны, некалькі месяцаў народнага лячэння цалкам выратавалі мяне і ад гэтай хваробы.

У мяне быў хранічны фарынгіт, а ў жонкі такі ж задаўнены ларынгіт. Аднак і гэтыя хранічныя захворванні вымушаны былі адступіцца ад нас.

Мне здалося, што замоўчваць пра гэтыя простыя і бясшкодныя для арганізму спосабы лячэння нельга. Людзі пачалі расказваць знаёмым пра гудзеўскія сродкі народнай медыцыны. У музей пачалі ехаць хворыя, прыходзіла ўсё больш і больш лістоў, часам нават па 200—300 за дзень. Мы не маем магчымасці нават прачытаць усю карэспандэнцыю. А таму просім не пісаць нам, бо адказаць не здолеем. Самае важнае будзем безганарарна друкаваць у выданні «Наша слова».

**Дырэктар Гудзеўскага літаратурна-этнаграфічнага музея**
**Алесь БЕЛАКОЗ.**

### Як рабіць крамянёвую ваду

Выбраць крэмень цёмнага або цёмна-шэрага колеру. Зверху ён можа быць белы, бо калі доўга ляжаў крэмень на полі, то з верхняй яго часткі лекавыя субстанцыі растварыліся і трапілі ў глебу. Тоненькі верхні белы пласт — гэта чысты крэмень без лекавых субстанцыяў, аднак усярэдзіне захаваўся цёмны колер. Там ёсць тое, што будзе растварацца і лячыць чалавека ці іншы жывы арганізм.

Крэмень загарнуць у шматачку, каб, разбіваючы яго, не пакалечыцца. Пакласці загорнуты кавалак на кавадла, камень, бетон ці рэйку або іншы цяжкі і цвёрды прадмет і малатком разбіць на кавалачкі, велічынёй з вішаньку. Узяць 5—10 такіх кавалачкаў (калі крэменю мала, то можна браць толькі адзін крамяньчык), укінуць у трохлітровы шкляны слоік, заліць сырой вадою з вадаправода, ці са студні, паставіць не ў цемнаце, а ў пакоі з адным ці некалькімі вокнамі. Не ставіць на акне. Сачыць, каб сонечныя промні не падалі на слоік з крамянёвачкай, бо вада пазелянее. Праз пяцёра сутак можна піць.

Варта адразу настойваць хоць 2—3 слоікі. З аднаго ужываем крамянёўку, а іншыя ў гэты час настойваюцца.

Такая вада лечыць захворванні кішэчніка, страўніка пры павышанай кіслотнасці, здымае вагу, вылечвае многія захворванні горла, скуры, апёкі, раны, свішчы, парадантоз зубоў, здымае камень з зубоў, лечыць дзясны, спыняе аблысенне і многае іншае.

Лекавыя ўласцівасці крамянёўка захоўвае пры тэмпературы ад +5 да +50 градусаў.

Гатовая крамянёвая вада можа стаяць дзесяцігоддзі, захоўваючы свежасць і лекавыя ўласцівасці.

Піць можна паўшклянкі або і больш за адзін дзень.

Пра лячэнне канкрэтных захворванняў і спосабы прыёму крамянёўкі будзе давацца матэрыял у наступных артыкулах.

### Каму і колькі можна піць крамянёвай вады

Да крамянёўкі, як да кожнага леку, арганізм з часам прызвычайваецца. А таму без патрэбы ўжываць гэты лек нярварта: не ўжываем жа мы аспірын, калі здаровыя.

Лечачы тое ці іншае захворванне, неабходна рабіць перапынкі, каб забяспечыць уздзеянне крамянёўкі на працяглы час.

Пасля трох-чатырох гадоў бесперапыннага ўжывання дабратворнае ўздзеянне лекавай вады на арганізм слабее.

Пры некаторых захворваннях ужо праз месяц трэба або павялічваць дозу крамянёвай вады, або часова пераходзіць на іншыя лекавыя сродкі.

Думаю, што дозы, час і працягласць прыёму леку хворы павінен выбіраць сам, стасуючыся да свайго самапачування.

Напрыклад, у мяне цяжкае анкалагічнае захворванне. У сувязі з векам і са стадыяй хваробы я мог сабе дазволіць ужыванне крамянёвай вады ў неабмежаванай колькасці на працягу чатырох з палавінай гадоў. Кожны дзень выпіваю не менш за літр крамянёўкі. Раблю гэта, каб пераканацца, ці яна не дае якіхсьці пабочных шкодных уплываў на арганізм.

Пераканаўся, што гэтая вадзіца вельмі добра ўплывае на ўвесь арганізм, аднак сіла яе ўздзеяння з часам слабее.

Калі раней пасля двухтыднёвай камандзіроўкі мог я паправіць некаторыя недамаганні за адзін — два дні, то цяпер для гэтага патрабуецца тыдзень, а часам і два.

Выснова: перапынкі ў лячэнні крамянёўкай пажаданыя і нават неабходныя.

Хачу паведаміць чытачам, што вынаходства крамянёвай вады належыць Малярчыкаву Анатолю Змітравічу. Ягоныя артыкулы пераканалі нас у вялікай лекавай сіле крамянёвай вады, далі нам гэты цудоўны лек. За гэта яму **ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ!**

Наша заслуга толькі ў тым, што мы раздалі людзям каля 10 тон крэмяню. А людзі прымусілі навукоўцаў нарэшце звярнуць увагу на гэты незвычайны лек.

Анатоль Змітравіч і сёння шмат працуе дзеля таго, каб выявіць і навукова абгрунтаваць цудадзейныя якасці гэтага незвычайнага леку. Думаю, што і ён напіша свае артыкулы для «Нашага слова».

**Алесь БЕЛАКОЗ.**

### ДА СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ

Дарагія беларусы ўсіх краёў! Без вашых допісаў «Наша слова» не здолее расказаць пра тое, чым жывяце вы далёка ад роднай Беларусі. Без нашай газеты вы не даведаецеся шмат чаго пра адраджэнне на Бацькаўшчыне.

Просім адгукнуцца ўсіх тых, хто хацеў бы сёлета атрымліваць «Наша слова», а таксама дасылаць нам артыкулы, інфармацыю, фотаздымкі.

**Рэдакцыя «Нашага слова».**



Суполка ТБМ імя Францішка Скарыны запрашае ўсіх, хто пажадае, на курсы па вывучэнню беларускай мовы. Заняткі праводзяцца бясплатна. Звяртайцеся, калі ласка, па тэлефонах:
66-82-30 (Юрась)
57-48-69 (Валеры)
г. Менск.

## АХВЯРАВАННІ НА ТАВАРЫСТВА

Ахвяравалі:
Валянціна і Міхась Пашкевічы з Канады 100 амерыканскіх долараў
А. Б. Сышчэвіч 50 рублёў
Дзмітро Жычка 100 рублёў
П. Кажара з Воршы 20 рублёў
В. Вярховіч з Менску 6 рублёў 26 кап.
Г. Станілевіч з Менску 10 рублёў
В. Калацэй з Маскоўскае вобласці 50 рублёў
Г. Яблонскі 50 рублёў
Белжылсацбанк 100 рублёў
Суполка ТБМ імя Францішка Скарыны з вёскі Быцень 80 рублёў 10 капеек

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» 1000 рублёў
Менскае СПТВ-40 100 рублёў
Першамайскае аддзяленне зберкасы № 8006 115 рублёў
ТЭПА «Брэсттурыст» 1000 рублёў
Беларускі Фонд культуры 20000 рублёў
Беларускі рэспубліканскі савет па турызму і экскурсіях 300 рублёў
Гасцініца «Юбілейная» 1000 рублёў
Слуцкая рада ТБМ 46 рублёў
Рэдакцыя газеты «Ленінец» 20 рублёў
Беларускі рэспубліканскі савет прафсаюзаў 500 рублёў
Беларускае аддзяленне УНДІ «Энергапрам» 4500 рублёў
Інстытут анкалогіі і медрадыялогіі 5000 рублёў.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**

Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры калегіі: Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Ігар Лапцёнак, Генадзь Мацур, Зьміцер Санько, Мікола Супрановіч, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.
Адказны сакратар Лявон Вашко.

Пры перадрукоўцы матэрыялаў рабіце спасылку на «Наша слова». Рэдакцыя не рэцэнзуе рукапісаў і назад не вяртае.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі 33-25-11

Бюлетэнь выходзіць раз на месяц.
Выданне безганарарнае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 8 000 паасобнікаў. Заказ 2430. Індэкс 74975.